**Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!**

# АБВЕСЬНІК

**Народнага Камісарыяту АСЬВЕТЫ Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.**

**ВЫДАНЬНЕ АФІЦЫЯЛЬНАЕ.**

| № 1. | ВЫХОДЗІЦЬ 2 РАЗЫ Ў МЕСЯЦ<br>Менск, пляц Волі № 2/21. ТЭЛ. 2—21. | 15 студзеня 1925 г. |
|---|---|---|

## З А Г А Д

## Народнага Камісарыяту Асьветы Б. С. С. Р.

### Па Кіраўніцтву Спраў.

§ 1.

Маючы на мэце атварыць найбольш пэўную і бязупынную сувязь з мясцовымі культурна-асьветнымі ўстановамі, прызнаецца адпаведным распачаць выданьне пры Народным Камісарыяце Асьветы афіцыяльнага пэрыодычнага бюлетэня.

Дзеля гэтага прапануецца распачаць выданьне два разы ў месяц бюлетэня з назовам: „Абвесьнік Народнага Камісарыяту Асьветы Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі", выпушчаючы па аднэй тысячы экзэмпляраў вось па якой програме:

1) Дэкрэты і пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту (Ц. В. К.) і Савету Народных Камісараў (СНК) Саюзу Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік (СССР).

2) Дэкрэты і пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту (Ц. В. К.) і Савету Народных Камісараў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі (С. Н. К. Б.).

3) Загады і абежнікі Народн. Камісарыяту Асьветы Беларусі (НКАБ).

4) Інфармацыйна-кіраўнічыя пісьмы і артыкулы.

5) Статыстыка працы НКАсьветы і падпарадкаваных культурна-асьветных установаў.

6) Хроніка.

7) Юрыдычныя дарады.

8) Даведачны аддзел (спраўкі).

§ 2.

У „Абвесьніку" зьмяшчаць бягучы матар'ял, а апроч таго, дзеля канцэнтрацыі ўсяго законадаўчага матар'ялу па асьвеце, паступова зьмесьціць усе дэкрэты і **пастановы саюзнага і**

**беларускага Ц. В. К. і С. Н. К.,** якія захавалі сваю сілу, пачынаючы з 1 студзеня 1921 году.

§ 3.

Зварачаваючы асаблівую ўвагу ўсіх падпарадкаваных Наркамасьветы ўстановаў, што „Абвесьнік Наркамасьветы БССР“ **ёсьць афіцыяльным выданьнем,** прапануецца прыймаць усе зьмешчаныя ў „Абвесьніку“ пастановы, загады, пісьмы і распараджэньні да ведама і выкананьня, **не чакаючы** спэцыяльнага сьцьвярджэньня з боку адпаведнае ўправы ці аддзелу Наркамасьветы. Адступленьні рабіць толькі для тэрміновых распараджэньняў, якія могуць рассылацца незалежна ад надрукаваньня іх у „Абвесьніку“.

§ 4.

У адпаведнасьці з папярэднім параграфам даручаецца Кіраўніцтву Спраў апрацаваць супольна з усімі ўправамі Наркамасьветы парадак рэгістрацыі і рассылкі абежнікаў і распараджэньняў прынцыповага характару, а таксама **аб абавязковай прысылцы ў Наркамасьветы копій з загадаў і абежнікаў, якія выдаюцца** Акр. АНА і іншымі ўстановамі агульнарэспубліканскага значэньня.

§ 5.

Ускладаецца абавязак на ўсе ўправы ды аддзелы Наркамасьветы, культурна-асьветныя ўстановы агульна-рэспубліканскага значэньня і Акруговыя Аддзелы Народнае Асьветы (Акр. АНА) перасылаць у Кіраўніцтва Спраў копіі з усіх матар'ялаў, апроч сэкрэтнае перапіскі, якія могуць асьвятліць жыцьцё данае ўстановы (пратаколы пасяджэньняў, даклады, нататкі аб асобных фактах, статыстычны матар'ял і г. д.).

§ 6.

Кіраўніцтву Спраў даручаецца шырака выкарыстаць статыстычныя матар'ялы па НКАсьветы.

§ 7.

Усе выдаткі па выданьню „Абвесьніку“, у тым ліку выплата за пераклады, перагляд матар'ялу, рассылка і г. д. адносіць на § 13 Дзяржаўнага Каштарысу па Нар. Камісарыяту Асьветы.

§ 8.

Арганізацыя тэхнічнае працы па зьбіраньню, падрыхтоўцы і сыстэматызацыі матар'ялаў, выпуску „Абвесьніку“ і экспэдыцыі ўскладаецца на Кіраўніка Спраў НКАБ Міколу Красінскага, пад агульным кіраўніцтвам і адказнай рэдакцыяй Намесьніка Наркамасьветы Паўлы Валасевіча.

(№ 228. 26/XII—1924).

Намесьнік НКАБ **Валасевіч.**

Кіраўнік Спраў **М. Красінскі.**

# Пастановы Савету Народных Камісараў Б. С. С. Р.

**2. Аб асярадкаваньні мастацкіх культурна-гістарычных каштоўнасьцяў.**

*19 лістапада 1924 г. (Пратак. № 47, п. 647).*

У мэтах асярадкаваньня мастацкіх і культурна-гістарычных каштоўнасьцяў у Беларускім Дзяржаўным Музэі і яго аддзяленьнях, Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Беларускі Дзяржаўны Музэй у Менску і яго аддзяленьні ў Віцебску і Магілёве ёсьць цэнтральнымі дзяржаўнымі хавальнямі музэйных каштоўнасьцяў агульна-рэспубліканскага значэньня.

2. Музэі, якія знаходзяцца ў іншых местах рэспублікі, зьяўляюцца краязнаўчымі, у якіх зьмяшчаюцца музэйныя рэчы, што адносяцца да культуры кожнае мяйсцовасьці.

3. Калі ёсьць у краязнаўчых музэях, памянёных у п. 2 гэтае пастановы, музэйныя рэчы агульна-рэспубліканскага значэньня, дык яны павінны быць перададзены, на паказаньнях Навукова-Экспэртнае Камісіі НКАБ, у музэйны фонд Беларускага Дзяржаўнага Музэю.

Старшыня СНКБ *І. Адамовіч.*
Кіраўнік Спраў *Зубовіч*
Сэкратар *Крэндзель.*

СНКБ на паседжаньнях сваіх 6, 10 і 17 сьнежня 1924 г. разгледзіў, між іншым, вось якія пытаньні, прыняўшы па іх такія пастановы:

*А. Паседжаньне 6.XII-1924 г. (Пратакол № 50).*

1. (683) Даклад Контрольнае Управы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў (НКФБ) аб выніках працы Фінансавага контролю (па дакладу т. Лазоўскага).

Прызнаць, што ў большасьці народных камісарыятаў і цэнтральных установаў БССР мелі месца такія недалікі:

а) нездавальняючая пастаноўка рахункаводзтва, якая не дае дакладнага рэальнага падліку сродкаў у адпаведнасьці з крыніцамі іх атрыманьня;

б) практыка мешаніны крэдытаў па дзяржаўнаму і мясцоваму бюджэту аж да поўнага іх абязьлічваньня, якая цьвёрда ўвайшла ў звычай, і, як вывад з гэтага, выдаваньне сродкаў, куды большых за каштарысныя прызначэньні, і, нават, на патрэбы, якія не прадугледжаны каштарысам; а часта здараецца, што на патрэбы ўстановаў ужываюцца тыя сумы, якія павінны здавацца ў прыбытак скарбу;

в) выняцьце ўстановамі без пары грошай па асыгноўках ды ўнясеньне іх на бягучыя рахункі і ва ўнутраныя свае касы, у якія таксама паступаюць сумы, што павінны здавацца беспасярэдна ў прыбытак скарбу;

г) запазычаньні за кошт іншых крыніцаў каштарысу, якія маюць спэцыяльнае прызначэньне, і прытым у большасьці выпадкаў—без наступнага папаўненьня зробленых запазычаньняў;

д) незважаньне распарадчыкамі крэдытаў на абавязкі, якія ўскладаюцца на іх агульнымі правіламі грашовага контролю як у адносінах дастаўкі ў час рахунковасьці на рэвізію, так і ў адносінах поўнасьці справаздаўчага матар'ялу;

е) выдаваньне бяз сыстэмы сродкаў у лік заробку, якое выяўляецца ў стракатасьці акладаў з відавочным нарушэньнем процантавых суадносінаў, якія ўстаноўлены тарыфнай сеткай.

Дзеля гэтага лічыць неабходным:

1. У выдаваньні сродкаў па каштарысу строга прытрымлівацца межаў бюджэтных прызначэньняў, запазычаючы з іншых падраздзяленьняў толькі ў выключных выпадках і паводле парадку, які на гэта ўстаноўлены.

2. Установы, якія знаходзяцца як на дзяржаўным, так і на мясцовым бюджэце, строга і няўхільна маюць прытрымлівацца азначаных ім штатаў і разьмераў выплаты, ня выходзечы з зацьверджанай сеткі пасадаў і суадносінаў у ей прынятай нормы нагрузкі.

НКФБ нагледзіць за выкананьнем гэтага, і лішкавыя, выплачаныя сумы спаганяць з распарадчыкаў крэдытаў.

3. Зьліквідаваць усе касы ў установах, якія не прадугледжаны законам, усклаўшы на НКФБ абавязак наглядаць за станам усіх яго кас, як цэнтральнай, так і акруговых і за гатоўкай усіх, неабходнай дзеля забесьпячэньня патрэбаў установаў.

4. Зьвярнуць увагу ўстановаў на неабходнасьць упарадкаваньня пастаноўкі падліку і рахунковасьці ды дастаўкі ў час яе на рэвізію, у вызначаныя законам тэрміны.

5. Лічыць мэтазгодным ліквідацыю Аддзелу Ўзаемных Разрахункаў.

6. Даручыць НКФБ па сканчэньні кожнага кварталу ўваходзіць у СНКБ з адпаведным дакладам аб выкананьні буджэту.

---

2. (685) Аб новых будынках для Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту (па дакладу НКАБ).

1. Прызнаць неабходным пабудаваньне будынку для Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

2. Пабудаваньне будынку распачаць у наступным годзе.

3. Выдаць з запаснага фонду СНКБ на пабудаваньне гэтага будынку 100.000 рублёў.

4. Запрапанаваць НКАБ апрацаваць плян папярэднае працы і скласьці проэкты будынку ды яго абсталяваньня. Выдаць на гэта НКАБ з запаснага фонду СНКБ 5.000 рублёў.

---

3. (687) Проэкт пастановы аб вывесках і напісах на нацыянальных мовах (па дакладу Сэкратарыяту ЦВКБ).

Прыняць і агаласіць запрапанаваны проэкт*) з некаторымі зьменамі.

---

4. (690) Проэкт пастановы ЦВКБ і СНКБ аб парадку мены выданьнямі ўстаноў з урадамі замежных дзяржаў (па дакладу Сэкратар. ЦВКБ).

Прыняць і ўнесьці на зацьвярджэньне Прэзыдыуму ЦВКБ.

---

5. (698) Паведамленьні Старшыні СНКБ:

. . . . д) Аб дазволе: 1) выдаваць што месяц 300 рублёў Белбюро Пролетарскага Студэнцтва на выдаткі па выдаваньню часопісі; 2) выдаваць што месяц 300 рублёў, у дадатак да сумы ў 1.200 р., якая выдаецца па каштарысу НКАБ на ўтрыманьне клюбу Беларускага Зямляцтва студэнтаў у Менску; 3) выдаць адначасна 500 рублей на вопраткі ля хору беларускага студэнцтва ў Маскве.

. . . . з) Аб падпісаньні пастановаў ад імя СНКБ: 1. Аб наданьні студэнтам, якія выключаны ў часе акадэмічнае праверкі права паступаць у вышэйшыя школьныя ўстановы і здаваць экзамены за курс вышэйшых школьных установаў ды тэхнікумаў*).

---

*) Тэкст пастановы будзе зьмешчаны ў наступным нумары.

*Б. Пасяджэньне 10.XII-1924 г. (Пратакол № 51).*

6. (706) Хадайніцтва Барысаўскага Акр. В. К. аб тым, каб пакінуць у саўхозе „Казімірава“ жывы і мёртвы інвэнтар і каб скасаваць загад НКЗБ аб вывазе яго.

I. Маючы на ўвазе, што ў саўхозе „Казімірава“ ёсьць школа сялянскае моладзі і што выняцьце з саўхозу інвэнтару можа адбіцца на разьвіцьці школы, пакінуць увесь жывы і мёртвы інвэнтар у памянёным саўхозе.

II. Зьвярнуць увагу ўсіх Акр. Выканаўчых Камітэтаў на недапушчальнасьць арганізацыі на будучыню, ня маючы адпаведнае згоды НКЗБ, усялякіх культурна-асьветных і іншых установаў, якія па сваей чыннасьці ня зьвязаны з дзейнасьцю дадзенага саўхозу і ўтрыманьне якіх кладзецца вялікім цяжарам на саўхоз.

——

7. (707) Хадайніцтва Савету па справах асьветы на транспорце аб асыгнаваньні школам на чугунках, якія знаходзяцца на абшары Беларусі, сродкаў на навучаньне дзяцей мясцовых жыхароў ня чыгуначнікаў.

Хадайніцтва адхіліць.

——

8. (709) Аб працы па ліквідацыі няпісьменнасьці ў 1924/25 годзе (па дакладу т. Радзевіча—Госплян).

I. Прызнаць неабходным правесьці ў 1924/25 годзе працу па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод грамадзян дапрызыўнага веку, пераменьнікаў у тэрыторыяльных дывізыях і сялянак-дэлегатак.

II. Даручыць НКАБ апрацаваць ды прадставіць у Народны Камісарыят Грашовых Спраў (НКФБ) адпаведны каштарыс на выдаткі.

——

9. (720) Аб Старшыні Савету Фізычнае Культуры.

I. Аслабаніць т. Дубіну, паводле яго заявы, ад працы як Старшыні Савету Фізычнае Культуры.

II. Старшынёй Савету Фізычнае Культуры прызначыць т. Барсукова.

——

10. (724) Аб зацьвярджэньні сьпісу навуковых установаў, якія маюць права на бязмытны ўвоз з замежаў навуковых дапамог (па дакладу т. Валасевіча).

Запрапанаваць НКАБ узгодніць сьпіс установаў, якія маюць права на бязмытны ўвоз з замежаў навуковых дапамог, з Упаўнаважаным Прадстаўнікам Народнага Камісарыяту Знадворнага Гандлю (НКЗГ) і прадставіць на канчальнае зацьвярджэньне Старшыні СНКБ.

——

11. (727) Паведамленьне Старшыні СНКБ аб асыгнаваньні даткавых сродкаў Горацкаму Работніцкаму Факультэту (Рабфаку) ў суме 360 р. што месяц на выдаваньне 30 стыпэндый студэнтам Рабфаку.

Прыняць да ведама.

*В. Пасяджэньне 17/XII 1924 г. (Прат. № 52).*

1. (735) Аб матар'яльным палажэньні студэнтаў у ВУЗ'ах і тэхнікумах.

Асыгнаваць, паводле каштарысу НКАБ, з запаснага фонду СНКБ 71.880 рублёў на павялічэньне ліку стыпэндыяў ды палепшаньне палажэньня студэнцтва БССР.

2. (736) Аб стыпэндыях студэнтам маскоўскіх і беларускіх ВУЗ'аў.

Прызначыць з запаснага фонду СНКБ навуковыя стыпэндыі вось якім студэнтам, якія пазначаны НКАБ дзеля наступнае навуковае працы ў БССР:

1. Студэнтам, якія вучацца ў беларускіх ВУЗ'ах: т. т. Гімельфарбу (Пэдфак БДУ), Шапіру, Башкевічу, Дабрускіну, Лапоцьку і Крыніцкаму (Мэдфак БДУ), Мяцельскаму (Бел. Інст. С. Г.), Паўлюкову, Маргілеўскаму і Шчэглову (Горацкі Інст. С. Г.) стыпэндыі вызначыць у разьмеры 50 р. што месяц, пачынаючы з лістапада 1924 г.

2. Студэнтам, якія вучацца ў Ма-

скоўскіх ВУЗ·ах: т.т. Пінчуку П., Ізоху Д., Дзядзюле І., Кіені М. стыпэндыі вызначыць у разьмеры 75 р. што месяц, пачынаючы з лістапада месяца 1924 г.

3. (737) Аб прызначэньні персональнае пэнсіі Эпімаху-Шыпіле.

Маючы на ўвазе вялікія заслугі Браніслава Ігнатавіча Эпімаха-Шыпілы ў справе адраджэньня беларускае культуры, прызначыць яму пэрсональную дажывотную пэнсію ў разьмеры стаўкі 17-га аддзелу тарыфнае сеткі адказных працаўнікоў па БССР.

4. (743) Аб скарачэньні тэлеграфных выдаткаў.

Зьвярнуць увагу ўсіх цэнтральных установаў і акруговых выканаўчых камітэтаў на неабходнасьць скарачэньня тэлеграфных выдаткаў і максымальнай замены тэлеграфнае перапіскі паштовай.

Запрапанаваць Народным Камісарыятам Грашовых Спраў і Работніцка-Селянскае Інспэкцыі зьвяртаць у часе сваіх дасьледаў увагу на тэлеграфныя выдаткі, якія робяцца ўстановамі.

5. (744) Аб дазволе НКАБ склікаць на 2 студзеня 1925 г. нараду загадчыкаў Акр. АНА.

Дазволіць Народнаму Камісарыяту Асьветы склікаць на 2 студзеня 1925 г. нараду загадчыкаў Акр. АНА.

6. (747) Аб дзяржаўным кіно.

Прыняць запрапанаваны НКАБ проэкт пастановы аб апарадкаваньні кіно - справы ў БССР з некаторымі зьменамі. *)

---

## ЗАГАДЫ

## Народнага Камісарыяту Асьветы.

*(За тэрмін з 1-га лістапада па 20-ае сьнежня 1924 г).*

### По кіраўніцтву спраў.

Маючы на ўвазе цяжкае матар'яльнае палажэньне, у якім апынулася беларуская моладзь, якая, будучы пазбаўленай атрымаць вышэйшую асьвету ў Заходняй Беларусі, прымушана была эміграваць у Савецкую Беларусь і вучыцца цяпер у тутэйшых ВУЗ'ах, лічу патрэбным прысьці да іх з дапамогай.

Дзеля гэтага загадваю стварыць Комісію ў складзе Старшыні Галоўпрафасьветы А. К. Усьпенскага, Старшыні Інбелкульту С. М. Некрашэвіча, Сп. аб. Кіраўніка Спраў НКАБ М. Х. Красінскага і прадстаўніка Ісполбюро Пролетарскага Студэнцтва, якая павінна організаваць сіламі першае Дзяржаўнае Беларускае Трупы добрадзейны спэктакль і чыстую карысьць ад яго падзяліць паміж студэнтамі і студэнткамі ВУЗ'аў Беларусі, эміграваўшымі ў восені сёлетняга году з Польшчы.

Па выкананьні даручэньня Комісія мае зрабіць мне справаздаўчы даклад.

(Заг. № 181, § 1. 20/XI—1924).

---

I. Паводле апрацованага Наркамасьветы пляну зьездаў і нарад у 1924-25 школьнага году склікаецца на пятніцу, 2 студзеня 1925 г. Першая Нарада Загадчыкаў Акруговых Аддзелаў Народнае Асьветы ў складзе:

| | |
|---|---|
| Нар. Камісара Асьветы | 1 |
| Ягоных намесьнікаў | 2 |
| Загадчыкаў Галоўсацвыху, Галоўпрафасьветы, Галоўпалітасьветы і Галоўліту | 4 |
| Загадчыкаў Акруговых АНА | 10 |
| Загадчыкаў Жыдоўскага і Польскага Бюро і Латыскае Сэкцыі. | 3 |
| Прадстаўніка ЦК КП(б)Б. | 1 |
| Прадстаўнікоў Саюзу Працаўнікоў Асьветы (Прэзыдыум) | 4 |
| Разам | 25 |

(дваццаць пять асоб) сяброў з правам рашучага голасу.

---

II. Нарадзе прапануецца вось які парадак дню:

1. Справаздаўчыя даклады Загадчыкаў Акр. АНА.

2. Чарговыя заданьні і програма працы НКА—даклад Антона Баліцкага.

*) Тэкст пастановы будзе зьмешчаны у наступным нумары.

3. Проэкт Палажэньня аб Акруговых АНА—даклад Паўла Валасевіча.

4. Проэкт Палажэньня аб Акруговых Інспэктарох і інструктарох даклад Язэпа Каранеўскага.

5. Проэкт аб Райкультаддзелах—даклад Сяргея Лысова.

6. Проэкт Статуту об Адзінай Працоўнай Школе—даклад Язэпа Каранеўскага.

7. Аб колектыўнай умове НКА з Саюзам Працаўнікоў Асьветы—даклад прадстаўніка Саюзу Прац. Асьветы Цімахвея Ахрамовіча.

———

III. Дакладчыкі абавязваюцца загадзя перадаць на папярэдні перагляд тэзы, проэкты палажэньняў па сваіх дакладах (апроч справаздаўчых дакладаў Акр. АНА). Комісіі ў складзе: Намнаркамасьветы П. Валасевіча, Галоўсацвыху Я. Каранеўскага, Галоўпалітасьветы С. Лысова, прадстаўніка Саюзу працаўнікоў Асьветы.

———

IV. Памянёная Камісія мае апрацаваць схему, па якой павінны быць пабудаваны справаздаўчыя даклады Загадчыкаў Акр. А. Н. А.

———

V. Кіраўніцтву Спраў паклапаціцца аб нарыхтаваньні Сэкратарыяту Нарады і аб зьмяшчэньні матар'ялаў у Абвесьніку НКАБ.

———

VI. Клопаты па організацыі нарады з гаспадарчага боку ўскладаюцца на Асабістага Сэкратара Наркома Аўгена Ліцкага.

(Заг. № 210, § 1—6. 13/XII—1924).

## Схема дакладу загадчыкаў Адзелаў Народнае Асьветы на нарадзе якая мае адбыцца ў Менску 2-га студзеня 1925 г.

### I. Па Сацыяльнаму Выхаваньню.

*А. Школы.*

1. Сетка ўстаноў Сацвыху ў параўнаньні з мінулым годам.
2. Ці ёсьць дагаворныя школы і колькі іх.
3. Якзабясьпечанасетка бюджэтам.
4. Процант школ, якія забесьпечаны ўласным памяшканьнем. Пытаньне аб пабудаваньні новых школьных будынкаў.
5. Забесьпячэньне школ зямельнымі вучасткамі.
6. Вучэбныя дапамогі, які асабліва патрэбны для школы.
7. Кваліфікацыя пэдагогічнага пэрсоналю.
8. Як абслугоўваюцца ўстановы інспэктурай з 1/X—1924 г.
9. Калі пачаліся школьныя заняткі.
10. Якімі програмамі карыстаецца школа.
11. Сувязь з раёнамі (канкрэтна).
12. Даведваньне школ дзяцьмі.
13. Парадак падрахунку гадовай працы Акр. АНА.
14. Сярэдні лік вучняў на аднаго настаўніка ў пачатковай школе.
15. Дашкольныя групы ў школах.
16. Школьнае самакіраваньне.
17. Школа і дзіцячы рух.
18. Сувязь з насяленьнем.
19. Матар'яльнае забясьпячэньне пэдагогічнага пэрсоналю.

*Б. Дашкольныя ўстановы.*

1. Сетка дашкольных ўстаноў у параўнаньні з мінулым годам.
2. Грамадзянская ініцыятыва ў арганізацыі і пашырэньні сеткі дашкольных устаноў.
3. Забесьпячэньне ўстаноў памяшканьнямі.
4. Умовы харчаваньня.
5. Характар і зьмест працы ў дзіцячых садох.
6. Сувязь дзіцячых устаноў з дзіцячым рухам.
7. Кваліфікацыя працаўнікоў.
8. Сувязь дашкольных устаноў са школаю.
9. Праца з бацькамі дзяцей і насяленьнем.

*В. Дзіцячыя дамы.*

1. Сетка дзіцячых дамоў у параўнаньні з мінулым годам.
2. Тып дзіцячых дамоў.
3. Лік дзяцей у дзіцячых дамох.
4. Сацыяльны і нацыянальны склад выхаванцаў дзіцячых дамоў.

5. Становішча дзіцячых дамоў у адносінах да гаспадаркі (памяшканьне, карменьне, адзеньне, абутак і інш.).

6. Кваліфікацыя кіраўнікоў працы ў дзіцячых дамох.

7. Вучэбна-выхаваўчая пастаноўка ў дзіцячых дамох.

8. Самакіраваньне ў дзіцячых дамох.

9. Сувязь дзіцячых дамоў з дзіцячым рухам.

10. Сувязь дзіцячых дамоў са школаю і дашкольн. ўстановамі.

*Г. Змаганьне з бяспрыглядна сьцю дзяцей.*

1. Становішча бяспрыгляднасьці.
2. Лік бяспрыглядных.
3. Спосаб падліку бяспрыглядных.
4. Узаемнаадносіны з камісіямі дапамогі дзецям. Праца камісіі па справах недарослых.
5. Спосаб барацьбы з бяспрыгляднасьцю.
6. Грамадзянскія ініцыатыва ў барацьбе з бяспрыгляднасьцю.
7. Установы для бяспрыглядных падлеткаў.

**II. Па праф.-тэхнічнай асьвеце.**

1. Сувязь з установамі прафасьветы.
2. Контроль над імі.
3. Агульнае становішча ўстаноў профасьветы.

**III. Па Галоўпалітасьветы.**

1. Сетка палітасьветных устаноў у параўнаньні з мінулым годам.
2. Установы на бюджэце.
3. Дагаворныя ўстановы.
4. Даведваньне гэтых ўстаноў.
5. Арганізацыя чырвоных куткоў.
6. Мэтоды прац у хатах-чытальнях.
7. Адносіны да бюджэту Акр. АНА.
8. Забесьпячэньне газэтамі і літэратурай.
9. Кваліфікацыя і стаж працаўнікоў.
10. Лік лектароў.
11. Арганізацыя таварыства „Далоў няпісьменнасьць".

**VI. Нацыянальная палітыка.**

1. Беларусізацыя школ.
2. Лік вучняў беларусаў.
3. Як вядзецца навучэньне ў школах на беларускай мове.
4. Лік настаўнікаў беларусаў.
5. Забесьпячэньне школ падручнікамі на беларускай мове.
6. Беларусазнаўства сярод вучняў і настаўнікаў.
7. Краязнаўства сярод вучняў і настаўнікаў.

**V. Мэтодычная праца.**

1. Мэтодычная праца бюро.
2. Настаўніцкія гурткі і іх праца.
3. Праца гуртков у школах.
4. Мэтодычная праца бюро дашкольных устаноў.
5. Новыя програмы. Спаткаўшыяся труднасьці ў выкананьні іх. Заўважаныя недахваты ў програмах.
6. Краезнаўчы нахіл працы ў школах.
7. Экскурсіі ў сялянскіх школах. Адносіны да іх настаўніка і селяніна.

**VI. Праца сярод нацыянальных менш.**

1. Сетка ўстаноў нац. меншасьцяй.
2. % іх да агульнага ліку ўстаноў.
3. Забесьпячэньне вучэбнымі дапамогамі і літаратурай.
4. Пастаноўка інструктаваньня ўстаноў нацменшасьцяй.
5. Падгатоўленасьць працаўнікоў.

---

Прапануецца прыняць да няўхільнага выкананьня вось якія правілы аб зімовым адпачынку ў ва ўсіх школьных установах, падпарадкаваных Народнаму Камісарыяту Асьветы Б.С.С.Р.

1) Зімовы адпачынак вызначаецца: у ВУЗ-ах, Рабфаках ды Тэхнікумах —з 15-га студзеня па 10 лютага, а ў школах, падпарадкаваных Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы —25 студзеня па 15-лютага ўключна.

2) У вясковых школах, дзе заняткі пачынаюцца пазьней і канчаюцца раней за прыняты для ўсіх школ тэрмін, зімовы адпачынак вызначаецца на адзін тыдзень паміж 25 студзеня і 15 лютага, зага-

дамі Акруговых АНА, узгодненымі з Саюзамі Працаўнікоў Асьветы, у залежнасьці ад мясцовых варункаў.

3) Школы местачковыя карыстаюцца зімовым адпачынкам нароўне з гарадзкімі школамі.

4) З прычыны таго, што студэнты ВУЗ'аў, Рабфакаў ды Тэхнікумаў не разьлічалі на вызначаны гэтым загадам тэрмін зімовага адпачынку і дзеля гэтага не забясьпечылі сябе харчамі, вызначыць на селетні 1924—1925 школьны год, як вынятак, адпачынак з 25 сьнежня па 10 студзеня і з 10-га па 25 красавіка.

5) Дзіцячыя дамы і сады, а таксама дэфэктыўныя ўстановы зімовым адпачынкам не карыстаюцца.

6) У прафтэхнічных школах і тэхнікумах, дзе ёсьць майстроўні, зімовы адпачынак павінен быць выкарыстаны інструктарамі і тэхнічнымі працаўнікамі на неабходны рамонт майстроўняў і прыладаў, а гаксама на запаску матар'ялаў да наступнае школьнае працы.

(Заг. № 214, § 1. 16/XII—1924).

———

Латыскую Сэкцыю пры Народным Камісарыяце Асьветы Б.С.С.Р. называць уперад Латыскім Бюро.

(Заг. № 215, § 1. 17/XII—1924).

———

Заслухаўшы справаздаўчы даклад Комісіі па матар'яльнай дапамозе беларускай моладзі, эміграваўшай з Польшчы ў Савецкую Беларусь (заг. № 181, § I 20/XI—1924 г.), з якое справаздачы высьвятлілася, што спэктакль, які адбыўся у Беларускім Дзяржаўным Тэатры 26 лістапада 1924 г., даў чыстае карысьць 287 р. 75 к. і грошы гэтыя падзелены паміж 25 студэнтамі-эмігрантамі (6 чалавек атрымалі па 15 р. 31 к. а 19—па 10 р. 31 к.), загадываю:

1) Падзякаваць трупу Беларускага Дзяржаўнага Тэатру за тое, што яна ахвяравала сваю працу на дапамогу незаможнай беларускай моладзі, прымушанай эміграваць з Заходняй Беларусі, каб атрымаць вышэйшую асьвету.

2) Камісію, як выканаўшую даручанае ей заданьне, лічыць зьліквідаванай.

(Заг. № 217, § 1. 18/XII—1924).

**Па грашова-гаспадарчаму аддзелу.**

Залічыць стыпэндыятамі на навуковыя пасады, скончыўшых вучэбныя ўстановы Яхімовіча Хведара і Пракапчука Андрэя з 1-га кастрыніка 1924 г.

Прасіць Беларускае Прадстаўніцтва атрымаць ад іх падпіскі, што яны па сканчэньні навуковага стажу, які ўстанаўліваецца НКА, паступяць пад яго загад.

(Заг. № 176, § 5. 14/XI—1924).

———

Зрабіць вось якія зьмены ў раскладзе стыпэндый па праф-тэхнічных школах, у межах агульнае сумы, вызначанае на памянёныя стыпэндыі, згодна з § 15, ст. 1 Дзяржаўнага каштарысу па НКАБ на 1924—1925 бюджэтный год:

| Назовы школаў. | Лік стыпэндыяў. |
|---|---|
| Бабруйская шк. мэталістаў . | 75 |
| Менская Аб'ядн. шк. . . . | 160 |
| Гарадокская шк. сьлясароў. | 30 |
| Віцебская „ абутнікаў . | 24 |
| Менская „ „ . | 70 |
| „ „ будаўнікоў. | 42 |
| Магілёўская „ мэталістаў . | 90 |

(Заг. № 182, § 1. 20/XI—1924).

———

На падставе распараджэньня Біржы Працы, апублікаванага ў газэце „Звезда“ № 265, па якому аплата за рэгістрацыю паступаючых на службу новых працаўнікоў робіцца за кошт працадаўцы, прапануецца Грашоваму Аддзелу выдаваць грошы на рэгістрацыю па спраўках, якія мае прадстаўляць у Аддзел дзелавод асабовага складу.

———

(Заг. № 189, § 5. 27/XI—1924).

Пакінутаму дзеля навуковае працы ў Дасьледчым Інстытуце пры Маскоўскай, ім. Ціміразява, Сельска-Гаспадарчай Акадэміі Гарэцкаму Гаўрыле вызначаецца з 1-га ліста-

пада 1924 г. навуковая стыпэндыя па § 15, ст. 1 дзяржаўнае сьметы 1924-25 году.

Абавязаць Гарэцкага падпіскай, што ён, скончыўшы навуковую працу ў Дасьледчым Інстытуце, будзе знаходзіцца пад загадам НКАБ, у залежнасьці ад чаго паставіць атрыманьне ім стыпэндыі.

(Заг. № 199, § 1. 5/XII—1924 г.).

———

Абвяшчаецца да ведама і выкананьня, што стаўкі Загадчыкаў Дэрэктыўных установаў разам з выплатай за паказальныя лекцыі не павінны перавышаць васьмадзесяцёх (80) рублёў што месяц.

(Заг. № 202, § 1. 8/XII—1924 г.).

———

З прычыны зачыненьня Бэгомльскае Аб'яднанае Школы ўсе крэдыты, якія ёй прызначаны, перадаць Калінінскае Прафтэхнічнай школе, якую залічыць з 1 кастрычніка 1924 г. на дзяржаўны бюджэт.

(Заг. № 202, § 2. 8/XII—1924 г.).

———

Паводле пастановы Бюро Навуковае Арганізацыі Працы („НОТ") пры Народным Камісарыяце Работніцка-Сялянскае Інспэкцыі (пратакол № 8), аб павялічэньні штатаў Менскае Прафтэхнічнае школы абутнікаў, павялічыць асыгнаваньні на выплату заробку па гэтай школе на тры аклады інструктароў, дзеля чаго паменшыць на два аклады штаты Бабруйскае школы мэталістаў і на адзін аклад штаты Гарадоцкае Аб'яднанае Прафтэхшколы.

Азначаную зьмену ў штатах памянёных школаў правесьці з 1 кастрычніка 1924 г., зрабіўшы разрахунак у час адчыненьня крэдытаў на наступны студзень м-ц.

(Заг. № 208, § 2. 12/XII—1924 г.).

———

**Па Галоўнай Управе сацыяльнага выхаваньня.**

З прычыны хадайніцтва пэдагогічнага складу і дзяцей Менскага Дзіцячага Гарадку № 1 аб наменаваньні апошняго імем А. Г. Чарвякова і маючы на ўвазе: 1) што пытаньне гэта было разгледжана 31 мінулага кастрычніка на пасяджэньні пэдагогаў памянёнага гарадку, а 2 лістапада г. г. на сходзе дзяцей, на якіх сходах аднагалосна было прынята прасіць аб наданьні гарадку імя А. Г. Чарвякова; 2) што Менскі Дзіцячы гарадок № 1, ёсьць адным з лепшых па пастаноўцы гарадкоў у БССР, 3) што ўрэшце, у склад памянёнага гарадку ўліўся Дзіцячы дом № 7, які насіў імя А. Г. Чарвякова, лічу адпаведным здаволіць аднагалоснае хадайніцтва пэдагогаў і дзяцей Менскага Дзіцячага Гарадку № 1 і загадваю прысвоіць з 7 лістапада 1924 г. памянёнаму гарадку імя старшыні ЦВК БССР т. Чарвякова; ад гэтай даты ўва ўсіх выпадках гарадок называць „Менскі Дзіцячы Гарадок імя А. Г. Чарвякова".

(Заг. № 171, § 4. 6/X—1924 г.).

———

Менскі Інстытут Соцыяльнага Перавыхаваньня і Магілёўскую Колёнію моральна-дэфэктыўных дзяцей злучыць у вадну інстытуцыю з назовам: Беларускі Інстытут Соцыяльнага Перавыхаваньня.

Месцам быцьця Інстытуту вызначыць двор „Крынкі" ў Слуцк. акрузе.

Прапаную Галоўсацвыху укомплектаваць злучаны Інстытут пэдагогічнымі і адміністрацыйнымі сіламі са складаў абедзьвюх злучаных установаў паводле новых штатаў, якія маюць быць узгоднены з Н. К. Работніцка-Сялянскае Інспэкцыі.

Грашова-Гаспадарчы Аддзел мае перадаць новаму Інстытуту сродкі, якія былі асыгнаваны абедзьвюм злучаным установам, узмацаваўшы гаспадарска-опэрацыйныя выдаткі новага Інстытуту і ўзгодніўшы гэтае пытаньне з НК Грашовых Спраў.

(Заг. № 183, § 2, 21/XI—1924 г.).

**Па Галоўнаму Палітыка-асьветнаму Камітэту.**

Прыняць з 1 кастрычніка 1924 г. пад загад Наркамасьветы па Галоўпалітпрасьветы Жыдоўскі Работніцкі Унівэрсытэт, прызначыўшы з тэй самай даты загадчікам памянёнага Унівэрсытэту Валабрынскага Арона.

(Заг. № 171, § 3. 6/XI—1924 г.).

Маючы на мэце рэгуляваньне пытаньняў, зьвязаных з фабрычнагутным вучнёўствам, стварыць пры Галоўпрафасьветы пад старшыньствам Галоўнага Інспэктара профтэхнічнае асьветы Маркі Абрамовіча. Камісію ў складзе прадстаўнікоў: 1) Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі (ВСНХ), 2) Культ. Аддзелу Цэнтральнага Савету Прафэсыянальных Саюзаў Беларусі (ЦСПСБ), 3) Цэнтральнага Камітэту Камуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі (ЦК КСМБ) і Народнага Камісарыяту Працы (НКТБ).

(Заг. № 215, § 3. 17/XII—1924 г.).

---

Аб'яўляецца наступны штат і стаўкі Беларускага Дзяржаўнага Музэю і яго аддзяленьняў на 1924--1925 г.

| №№ па парадку. | НАЗВА ПАСАДЫ. | Разрад. | Стаўка. | 50% нагрузкі. | Разам у месяц. |
|---|---|---|---|---|---|
| | Па Беларускаму Дзяржаўнаму Музэю: | | | | |
| 1 | Дырэктар музэю . . . . | 16 | 50 р. 40 к. | 25 р. 20 к. | 75 р. 60 к. |
| 2 | Загадчык Мастацкага Аддз. | 15 | 46 „ 90 „ | — | 46 „ 90 „ |
| 3 | „ Зоолёгічн. „ | 15 | 46 „ 90 „ | — | 46 „ 90 „ |
| 4 | „ Жыдоўскага „ | 15 | 46 „ 90 „ | — | 46 „ 90 „ |
| 5 | Чучальнік . . . . . . . | 13 | 38 „ 40 „ | — | 38 „ 40 „ |
| 6 | Назорца музэю . . . . . | 14 | 43 „ 40 „ | — | 43 „ 40 „ |
| 7 | Сэкратар . . . . . . . | 12 | 35 „ — „ | — | 35 „ — „ |
| 8 | Уборшчыц (дзьве) . . . . | 4 | 12 „ 60 „ | — | 25 „ 20 „ |
| 9 | Дворнік . . . . . . . | 5 | 15 „ 40 „ | — | 15 „ 40 „ |
| | | | | | 373 р. 70 к. |
| | Па Віцебскаму аддзял. Белар. Дзяржаўн. Музэю: | | | | |
| 1 | Загадчык аддзяленьня . . | 14 | 43 р. 40 к. | 21 р. 70 к. | 65 р. 10 к. |
| 2 | Пам. загадчыка . . . . . | 14 | 43 „ 40 „ | — | 43 „ 40 „ |
| 3 | Бібліатэкар . . . . . . | 13 | 38 „ 40 „ | — | 38 „ 40 „ |
| 4 | Мал. бібліатэкар . . . . | 12 | 35 „ — „ | — | 35 „ — „ |
| 5 | Дзелавод . . . . . . . | 10 | 29 „ 40 „ | — | 29 „ 40 „ |
| 6 | Уборшчыца . . . . . . | 4 | 12 „ 60 „ | — | 12 „ 60 „ |
| 7 | Дворнік . . . . . . . | 5 | 15 „ 40 „ | — | 15 „ 40 „ |
| | | | | | 239 р. 30 к. |
| | Па Магілёўскаму аддзял. Белар. Дзяржаўн. Музэю. | | | | |
| 1 | Загадчык аддзяленьня . . | 14 | 43 р. 40 к. | 21 р. 70 к. | 65 р. 10 к. |
| 2 | Музэйны супрацоўнік . . | 13 | 38 „ 40 „ | — | 38 „ 40 „ |
| 3 | Бібліотэкараў 2 . . . . . | 12 | 35 „ — „ | — | 70 „ — „ |
| 4 | Дзелавод . . . . . . . | 10 | 29 „ 40 „ | — | 29 „ 40 „ |
| 5 | Мэханік-апальшчык . . . | 12 | 35 „ — „ | — | 35 „ — „ |
| 6 | Стораж-уборшчык . . . . | 5 | 15 „ 40 „ | — | 15 „ 40 „ |
| | | | | | 253 р. 30 к. |

Разам . . . 866 р. 30 к.

Прапануецца Дырэктару Беларускага Дзяржаўнага Музэю і Загадчыкам аддзяленьняў прадставіць пэрсанальны штат як раней займаючых пасады, так і нанова запрошаных, згодна гэтаму штату.

Асобам, якія атрымліваюць 50% дадатак за нагрузку, забараняецца сумяшчэньне другіх пасад.

Увесьці гэтыя штаты ў сілу з 1-га лістапада 1924 г.

(Заг. № 196, § 1—5. 5/XII—1924 г.

### Па польскаму бюро.

Паводле пастановы Польскага Бюро пры Магілёўскім Акруговым Комітэце К. П. (б) Б. ад 25 верасьня 1924 г. падтрыманага Магілёўскім Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы, Магілёўскай Польскай Сямёхгодцы ім. Капэрніка надаецца імя вядомага польскага рэволюцыянэра Марціна Каспржака, пакаранага смерцьцю царскім урадам у 1905 годзе.

Адгэтуль памянёную школу ўва ўсіх выпадках называць: „Магілёўская польская сямёхгодка імя Марціна Каспржака“.

(Заг. № 199, § 2. 5/XII—1924 г.

## Зьмены ў складзе працаўнікоў НКАБ.

### Па кіраўніцтву спраў.

Часова спаўняючы абавязкі Кіраўніка Спраў і Юрысконсульта НКАБ Красінскі Мікола зацьвярджаецца на займаямых пасадах.

(Заг. № 188, § 7. 26/XI—1924 г.)

### Па Гал. Управе па сацыяльнаму выхаваньню.

Адказны Сэкратар Дзіцячага Бюро маладых піонэраў ім. Леніна Розенблюм Леў камандыруецца у Маскву на 15-цёхдзённую экскурсыю для працаўнікоў па соцыяльна-праўнай ахове недарослых і сяброў РЛКСМ, якія праводзяць піонэрпрацу у Дзіцячых дамох.

(Заг. № 185, § 1. 22/XI—1924 г.).

---

Працаўнік Бярэзінскае сямёхгодкі Піскун Антон прызначаецца Інспэктарам Соцвыху Калінінскае акругі, з 16 лістапада 24 г.

(Заг. № 186, § 3. 24/XI—1924 г.).

---

Дзеля ўзмацненьня працы Магілеўскага Аддзелу Народнае Асьветы Сушынскі Язэп прызначаецца Інспэктарам Соцвыху Магілеўскае акругі, з аслабаненьнем яго ад пасады Галоўнага Школьнага Інспэктара, з 11-га сьнежня 1924 г.

(Заг. № 209, § 2. 12/XII—1924 г.).

### Па Гал. Палітыка-асьветнаму Камітэту.

Галоўны Інспэктар Партшколаў і школ для дарослых Сярбэнта Віталі аслабаняецца ад займаемай пасады з 1-га сьнежня 1924 г., паводле заявы.

(Заг. № 184, § 2. 21/XI—1924 г.).

---

Загадчык Пракатнае Канторы Грэкаў Норбэрт прызначаецца Інспэктарам мастацкіх установаў і публічных глядзелішчаў з 1-га кастрычніка 1924 г., з захаваньнем за ім абавязкаў па Пракатнае Канторы.

(Заг. № 197, § 3. 5/XII—1924 г.).

### Па Гал. Управе Праф-Тэхнічнае асьветы.

Загадчык Вышэйшых Беларускіх Курсаў Грамыка Міхал аслабаняецца ад займаемай пасады, паводле заявы, з 11 лістапада 1924 г.

(Заг. № 174, § 2. 12/XI—1924 г.).

---

Міцкевіч Адам прызначаецца Загадчыкам Вышэйшых Беларускіх Курсаў з 11 лістапада 1924 году.

(Заг. № 174, § 3. 12/XI—1924 г.).

---

Каранеўскі Язэп аслабаняецца з 11 кастрычніка 1924 г. ад працы па загадваньню Беларускім Пэдагогічным Тэхнікумам.

(Заг. № 176, § 1. 1/XI—1924 г.).

---

Інспэктар Пэдагогічнае Асьветы Рыдзейскі Міхал прызначаецца дырэктарам Беларускага Пэдагогічнага

Тэхнікуму з 11 кастрычніка 1924 г., з аслабаненьнем з тэй самай даты ад абавязкаў Інспэктара.
(Заг. № 176, § 2. 14/XI—1924 г.).

———

Васілевіч Язэп прызначаецца Загадчыкам Віцебскага Аддзяленьня Беларускага Дзяржаўнага Музэю.
(Заг. № 192, § 6. 1/XII—1924 г.).

———

На Сэкратара Навукова-Мэтодолёгічнае Камісіі Прафасьветы Гіршгорна Артура ускладаюцца абавязкі Галоўнага Інспэктара Пэдагогічнае Асьветы, з выплатай заробку па апошняй пасадзе і з захаваньнем за ім абавязкаў Сэкратара Навукова-Мэтодолёгічнае Камісіі, з 20 лістапада 1924 г.
(Заг. № 206, § 5. 10/XII—1924 г.)

**Па Галоўнаму Рэпэртуарнаму Камітэту.**

Гурскі Ільля прызначаецца Старшынёй Рэпэртуарнага Камітэту з 1 кастрычніка 1924 г.
(Заг. № 175, § 2. 12/XI—1924 г.).

**Па Польскаму Бюро.**

Інспэктар Польскае Культуры Барысаўскае акругі Рагінскі Пётра прызначаецца .нспэктарам Польскае Культуры Аршанскае акругі.
(Заг. № 201, § 1. 6/XII—1924 г.).

**Па Навукова Мэтодолёгічнаму Камітэту.**

Рэдактар часопісі „Асьветы" Байкоў Мікола аслабаняецца ад займаемай пасады, паводле яго прозьбы, з 1 лістапада 1924 г.
(Заг. № 179, § 1. 17/XI—1924 г.).

———

Навуковы Сэкратар Нав.-Мэтодолёгічнае Камісіі Галоўпрафасьветы Сілін Барыс аслабаняецца ад займаемай пасады з 1 лістапада 1924 г.
(Заг. № 179, § 3. 17/XI—1924 г.).

———

Інспэктар праф-тэхнічнае асьветы па Магілеўскай акрузе Гіршгорн Артур прызначаецца Навуковым Сэкратаром Нав.-мэтодолёгічнае Камісіі Галоўпрафасьветы з 1 лістапада 1924 г., з аслабаненьнем ад абавязкаў Інспэктара.
(Заг. № 179, § 4. 17/XI—1924 г.).

———

Сэкратар Навукова-Мэтодолёгічнага Камітэту Пятосін Язэп аслабаняецца ад займаемай пасады паводле заявы, з 1 сьнежня 1924 г.
(Заг. № 188, § 10. 26/XI—1924 г.).

**Па Інстытуту Беларускай Культуры.**

У зьвязку з рэарганізацыяй Інстытуту Беларускае Культуры, якая мае адбыцца на падставе Палажэньня аб Інбелкульце, прынятага на трэцяй сэсіі ЦВК БССР шостага скліку, паводле § 19 памянёнага палажэньня, Дыла Язэп назначаецца з 21 лістапада 1924 г. правадзейным членам Інбелкульту, з ускладаньнем на яго абавязкаў Вучонага Сэкратара.
(Заг. № 185, § 2. 22/XI—1924 г.).

———

Школьны працаўнік Тараўскі Гермагэн залічаецца супрацоўнікам Бібліографічнае Камісіі з 18-га лістапада 1924 г.
(Заг. № 186, § 6. 24/XI—1924 г.).

———

## Абежнік аб правядзеньні перапісу школ і іншых культурна-асьветных установаў на тэрыторыі Б.С.С.Р.

*(№ 9721—15X—1924 г. Акруговым Аддзелам НКАБ і Цэнтральн. Статыстычнае Управе).*

На тэрыторыі Б.С.С.Р. у студзені месяцы 1925 г. адбудзецца агульны (100 проц.) перапіс школ і іншых культурна - асьветных установаў, ня гледзючы на тое, каму яны падпарадкаваны.

Агульнае кіраўніцтва над перапісам належыць да Цэнтральнае Статыстычнае Управы Беларусі. Арганізацыйная праца па перапісу, а таксама і нагляд за працай даручаецца

Акруговым Статыстычным Бюро, а на Акруговыя Аддзелы Нар. Асьветы і Раённыя Культаддзелы ускладаецца адказнасьць за сваячасную дастаўку матар'ялаў і правільнасьць вестак, якія імі даюцца.

Усе матар'ялы па перапісу ў раёнах зьбіраюцца загадчыкамі Раённых Культаддзелаў і разам з адпаведным сьпісам усіх школ і іншых культурна-асьветных установаў раёну, пасылаюцца ў Акруговае Статыстычнае Бюро, у вызначаны тэрмін.

Па пытаньнях тэхнічнага правядзеньня вышэй памянёнае працы прапануецца нарыхтаваць сувязь з мясцовым Акруговым Статыстычным Бюро.

Дадатак: інструкцыя Цэнтральнага Статыстычнага Бюро.

Намесьнік НКАБ **Валасевіч**.

Кіраўнік спраў **М. Красінскі**.

## Кароткі наказ да перапісу ўсіх школ і іншых культурна-асьветных установаў на 1-ае студзеня 1925 г.

Першы перапіс усіх школ і інш. культурна-асьветных установаў пашыранае БССР павінен адбыцца у тэрміновым парадку, дзеля таго, што да 1-га сакавіка 1925 г. новыя весткі па аддз. статыстыкі народнае асьветы павінны быць ужо апублікаваны.

У зьвязку з гэтым Цэнтральная Статыстычная Управа Беларусі праводзечы гэтую працу ў цеснай сувязі з НКА, прапануе, як Акр. Статыстычным Бюро, так і Акр. Аддзелам Нарасьветы строга кіравацца на наступны календарны плян перапісу:

1. Апытальныя блянкі павінны быць разьмяркаваны па Раённым Выканаўчым Камітэтам (адначасна з загадам акр. АНА) не пазьней 18-га сьнежня.

2. Загадчыкі Раённых Культаддзелаў павінны даручыць гэтыя блянкі ўсім загадчыкам школ і інш. культурна-асьветных установаў свайго раёну, да 25-га сьнежня.

3. Загадчыкі школ і інш. культасьветных установаў, па запаўненьні блянкаў вычэрпанымі адказамі на ўсе пастаўленыя пытаньні, павінны зьвярнуць іх не пазьней 5-га студзеня 1925 г.

4. Загадчыкі Раённых Культаддзелаў, якія нясуць адказнасьць за паўнату (100 проц. установаў); своечаснасьць паступленьня, а таксама і якасьць атрыманых статыстычных матар'ялаў, маюць права дзеля таго каб спраўдзіць гэтыя матар'ялы, затрымаць іх у сябе на 5 дзён і затым, не пазьней 10 студзеня, усе матар'ялы адаслаць у Акр. Статыстычнае Бюро, разам з адпаведным сьпісам усіх школ і інш. культасьветных устаноў свайго раёну.

5. Калі пры запаўненьні блянкаў будзе што-колечы не зразумела, дык па тлумачэньні належыць звярачвацца: у Менску—да Цэнтр. Стат. Управы (Аддзел Статыстыкі Нарасьветы), а у акругох—да мясцовых Акр. Статыстычных Бюро.

Загадчык Аддзелу Статыстыкі

Нарасьветы **В. Обух**.

## Абежнік аб тэрміновай прысылцы ведамасьцяй на працаўнікоў па паказанаму ўзору і аб штомесячным паведамленьні аба ўсіх зьменах ў асабовым складзе.

*(№ 393 15 студзеня 1925 г.—Аддзелам Народнае Асьветы, ВУЗ'ам, Рабфакам, Тэхнікумам, Інбелкульту, Дзяржаўнаму музэю і яго аддзяленьням, Дзяржаўнай Бібліатэцы, Беларускім Драматычным Студыям ў Маскве, Савецкім парт. школам, Беларускаму Дзяржаўнаму тэатру, Беларускай Дзяржаўнай трупе пад кіраўніцтвам Галубка, Практычна-Паказальн. Школам пры Пэдтэхнікумах, Інстытуту Социяльнага перавыхаваньня, Школам Глуханямых, Школе сьляпых).*

У НКАБ выявілася неабходная патрэба мець самыя дакладныя